# Самапомач

## Беларуская коопэратыўна-гаспадарчая часопісь


Год IV. | Вільня, Травень 1935 г. | № 5.


*Хай злыдні над намі,*
*скрыгочуць зубамі*
*Любі сваю ніву, свой*
*край,*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, бараную,*
*засявай!..*

ЯНКА КУПАЛА.



*Усе вялікія падзеі народаў і ўсе цывілізацыі былі створаныя дабравольнымі стараньнямі аб'яднаных людзей... самапомачу*

Джордж РЭССЭЛЬ (Ірляндзец).



## Ceny ŭ Vilni

*31.V.35. Ceny za 100 kilohram.*

**Zbožža.**

| | |
|---|---|
| Žyta | 13.50—14,50 |
| Pšanica | 17.75—18 75 |
| Jačmień | 14,50—15 75 |
| Avios | 14,00—16,00 |
| Hračycha | 17 00—19.00 |
| Muka pšaničnaja | 13.50—31 00 |
| Muka, žytniaja da 55% | 23 50—24.00 |
| Muka žytniaja da 65% | 19.50—20 00 |
| Muka sitkovaja | 15.50—16 00 |
| Muka razovaja | 15.50—16.00 |
| Muka žyt. da 82% (typ vajskovy) | 17.00—17 50 |
| Łubin sini | 9.00—10 00 |
| Bulba stałovaja | 3.25 3.50 |
| Lon (vałakno) česany | 1580—2140 |
| Lon (trapany) | 1500—1660 |

**Małočnaje za 1 kilo (31.V.35.).**

| | |
|---|---|
| Masła najlepšaje, za kilo ŭ hurcie | 2,00 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.60 |
| Masła stałovaje za kilo ŭ hurcie | |
| „ „ „ „ „ u detalu | |
| Masła solenaje za kilo ŭ hurcie | |
| „ „ „ „ u detalu | |
| Syr navahradzki, za kilo ŭ hurcie | 2 10 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.60 |
| Syr Lechicki za kilo ŭ hurcie | 1.80 |
| „ „ „ „ „ u detalu | 2.20 |
| Syr litoŭski, za kilo ŭ hurcie | 1.55 |
| „ „ „ „ u detalu | 1.80 |
| Jajki, kapa | 2.70—3.60 |
| „ štuka | 5—7 hrašoŭ. |

## UVAHA! — Żmiena adresu — UVAHA!

Ad 1 červienia sioletą redakcyja „SAMAPOMAČY“ pieraniesiena na novaje pamieškańnie. Novy adres redakcyi i administracyi „SAMAPOMAČY“ nastupny: **VILNIA (Wilno), Połackaja vulica, dom Nr. 9 kv. 4.**

**Чытайце самі і сярод знаёмых пашырайце адзіны ў нас гаспадарскі часапіс**

# „Самапомач“

„Самапомач“ выходзіць рэгулярна што месяц трэці ўжо год і зьяўляецца найтанейшай гаспадарчай газэтай.

Зьмест «Самапомачы» ў гэтым 1935 годзе значна павялічыцца ў аддзеле сельскай гаспадаркі, дзе будуць часьцей падавацца рады аб польнай гаспадарцы, жывёлагадоўлі, садоўніцтве, агародніцтве і землябскай эканоміцы.

Падпісная цана на адзін экзэмпляр, разам з паштовай перасылкай: на год 3. зл., на паўгода — 1.75, заграніцу — ўдвая даражэй. Цана асобнага нумару 40 гр. Коопэратывы, гурткі і прыватныя асобы, што выпісваюць на адзін адрэс найменш 10 экзэмпляраў „Самапомачы“ (камплект), плацяць за экзэмпляр толькі **1.20** зл. за 10 экз. 12 зл.

Грошы на «Самапомач» пасылаць на чэкавае конто інж. Клімовіча у П.К.О. Nr 180 485, а ўсякія пісьмы — на адрэс:

**Redakcyja „Samapomač“, Vilnia, Połackaja vul. 9—4**
(Wilno, Połocka 9—4).

Рэдакцыя адчынена ў аўторкі і пятніцы ад 9-ай да 12-ай гадз. дня.

# Samapomač

BIEŁARUSKI KOOPERATYŪNA - HASPADARSKI ČASAPIS.

Adres:
VILNIA (Wilno), Połackaja vul. 9—4.

# Самапомач

| Hod IV. | Vilnia, Travień 1935 h. | Nr. 5 (34). |
|---|---|---|


## *Kooperatyūna - haspadarskija naviny.*

**Dzień Kooperacyi ū Polščy ūznoū adłožany.** Z pryčyny nacyjanalnaj polskaj žałoby, Dzień Kooperacyi, jaki normalna vypadaū sioleta ū niadzielu 2 červienia, byū adłožany na 30 červienia. Apošnim časam daviedvajemsia, što i hety rok (srok, termin) užo źmienieny i pieraniesieny až na dzień 15 vieraśnia.

**Śmierć praf. J. Mikułoūskaha-Pamorskaha.** Dnia 4 traūnia sioleta pamior u Varšavie praf. J. M.-Pamorski. Niabožčyk, aprača svaje navukovaje pracy, viedamym u sučasnaj Polščy staūsia z taho, što daū pačatak praktyčnamu vyvučańniu ziemlarobstva pry pamačy hetak zvanaha *„Ziemlarobskaḫa pryspasableńnia"*, viedamaha i ū nas na ziemlach zachodnie-biełaruskich.

**Zapisy na XIII Małačarski Kurs u Stryju.** Viedamaja centrala ukrainskaj małačarskaj kooperacyi „Masłasajuz" u Stryju (Usch. Haliččyna) sioleta ūvosieni pačynaje vieści ūžo XIII Kurs dziela pryhatavańnia małačaroū dla kooperatyūnych małačarniaū. Kurs pačniecca 1 kastryčnika i patryvaje 10 miesiacaū (da 31 lipnia 1936 h.). Na kurs pryjmajucca kandydaty ū vieku 18—30 hadoū, jakija prad tym adbyli prynamsi adnamiesiačnuju praktyku ū małačarni, jakuju pakaža „Masłasajuz". Piaršynstvo ū pryniaćci majuć tyja kandydaty, što skončyli siaredniuju ahulna-aśvietnuju ci inšuju haspadarskuju škołu. Košty całaha ūtrymańnia i navuki kala 350 zł., jakija treba złažyć napierad. Zajavy ab pryniaćci na kurs treba pasyłać najpaźniej da 15 vieraśnia na adres: „Masłosojuz", Lvoū, vul. B. Głovackaha № 23.

**Pieraacenka hruntoū.** Jak užo pisała „Samapomač" u № 4, u polskim Sojmie byū pryniaty zakon ab pieraacency hruntoū. Heta pieraacenka budzie praviedziena ū praciahu troch hadoū. Pieraacenku hruntoū na miascoch budzie pravodzić Pavietavaja Klasyfikacyjnaja Kamisija. Ad vyrašeńnia Pavietavaj Kamisii možna adklikacca da Kamisii Vajavodzkaj. Usiej pieraacenkaj urešcie kiruje Hałoūnaja Kamisija ū Varšavie.

U skład Pavietavaj Klasyfikacyjnaj Kamisii ūchodziać: Načalnik miascovaha skarbovaha ūradu (jak staršynia Kamisii); zastupnik staršyni Kamisii — vyznačany Ministram Skarbu; pradstaūnik Ministerstva Ziemlarobstva i Ziamielnych Reformaū; dva siabry i dva zastupniki delehavanyja Ziemlarobskaj Pałataj; i dva pradstaūniki (i dva kandydaty) ad płatnikaū hruntovaha padatku, jakich naznačaje Skarbovy ūrad na prapazycyju Pavietavaj Rady (Sojmika), pry hetym adzin ad abšarnikaū i adzin ad sialan. Pradstaūniki ad płatnikaū hruntovaha padatku musiać być ludźmi miascovymi (z miascovaha pavietu), mieć poūnyja hramadzkija pravy i mieć skončanych 30 hadoū.

Praca Pavietavaj Klasyfikacyjnaj Kamisii dzielicca na dva stupni. Pieršy stupień — padzieł usich hruntoū na ūžytkovyja hrupy: vornaje pole, sienažaci, paśbiščy, vody, lasy i niaūžytki. Druhi stupień — padzieł kožnaj hrupy na klasy zaležna ad pryrodnaj jakaści pola i ich kulturnaha stanu. Hrupy hruntoū: vornych, sienažaciaū, paśbiščaū i pad vadoju (vazioraū) dzielacca na 6 klas, a hrunty pad lesam dzielacca na 3 klasy.

Pastanovy Pavietavaj Kamisii ū pieraacency hruntoū majuć pieršaradnaje značeńnie i tamu treba pry ichnaj pracy być vielmi ūvažnym.

**Niaznačnaja abnižka cen.** Pavodle paviedamleńnia hazet, pramysłoūcy ū Polščy pastanavili pravieści sioleta małuju abnižku cen, pryblizna na 20 prac. (na adnu piatuju čašć) na takija drobnyja sielska-haspadarskija pryłady, jak žaleznyja łapaty, vily i piły. Łapaty (znak P - 1 i P—2) majuć kaštuvać u drobnym handli pa 80 hrašoū za štuku. Vily dvuzubyja, dla ziemlaū biełaruskich i ūkrainskich (mienš vykančanyja) u chvabrycy majuć kaštavać pa 55 hr. za štuku, tryzubyja — pa 82 hrašy, čatyryzubyja — pa 92 hrašy. Ceny na piły majuć być abnižany taksama na 20 prac. Ceny na łapaty i piły majuć być vypalivany na kožnaj štucy tavaru.

Hetuju „abnižku" vyrašyli sami pramysłoūcy. Naturalna, rabili jany heta nie dziela niejkaj lubaści da sialanstva, a dziela taho, što sialanstva heta, zhaleūšy da rešty, nie mahło ūžo nijakich chvabryčnych vyrabaū kuplać i tavar lažaū na składach nieparušna. Małuju ūstupku na pieraličanych łapatach, piłach i viłach pramysłoūcy, peūna-ž, patrapiać „adbić" na inšych svaich tavarach, jakija sialanstvu patrebny kaniešna i ceny na jakija padaūnamu stajać niačuvana vysaka.

# Сельская гаспадарка.

## Ці ўмеем сушыць сена?

Як ні цяжка сягоньня гаспадарыць на сялянскім загоне, праўда аднак астаецца праўдай, што жывёлагадоўля і сягоньня ёсьць яшчэ апорай гаспадаркі. На ўвагу заслугоўвае наўперад гадоўля малочнай скаціны. Але праўду кажа чэская прыказка, што „krava doji držkou“ — карова доіць шнюком (зубамі). Гэта знача, што карова гэтулькі надоіць малака, колькі дастане пашы.

У нармальныя часы земляроб можа пазволіць сабе на куплёную (фабрычную) пашу. Сягоньня аднак трэба старацца абыйсьціся тэй толькі пашай, якую можна мець з сваей-жа гаспадаркі. З гэткай гаспадарскай пашы, прыгатаўлянай на зімавую пару, найважнейшай ёсьць сена: мурог, канюшына і ўсякія канюшынна — травяністыя мешанкі. Апрача вялікай спажыўнай вартасьці, важным ёсьць сена і таму йшчэ, што яно дае пашу вельмі здаровую. У тых-жа ваколіцах, дзе з каравячага, малака выробляюць такія чуткія на смак малочныя прадукты, як розныя гэтак званыя шляхотныя сыры, там добрае сена ёсьць канешнай пашай для малочных кароў. Ня можна так-жа бяз добрага мурожнага ці канюшыннага сена абыйсьціся і ў тых гаспадарках, дзе гадуецца маладняк усякай гаспадарскай жывёлы: сена мае ў сабе ўсе тыя складовыя часткі (матар'ялы), з якіх складаецца і гадуецца касьцяк жывёлы і ўсе ейныя ворганы.

Коратка кажачы, добрае сена ў земляробскай гаспадарцы ёсьць канешным.

Ня тут месца гаварыць аб тым, як і што трэба рабіць, каб на нашых сенажацях і палёх расло шмат і добрай травы. Аграніччымся тут толькі да таго, як з вырослай ужо травы (канюшыны, мешанкі) прыгатаваць шмат і добрага сена.

Найбольшая абмылка нашых гаспадароў-земляробаў у тым, што яны лічаць вартасьць сена не паводле зьместу, а паводле абыйма. А дзеля таго, што зьмест і абыймо сена гэта дзьве розныя рэчы, дык селянін наш найчасьцей замест праўдзівага поўнавартаснага сена зьбірае самую толькі бязвартасную салому. І за гэты гаспадарскі грэх галадуе нявінная жывёла.

У чым-жа тут тады справа? Бо і „хто-ж сабе ліхадзей“?

Уся бяда ў тым, што большасьць нашых гаспадароў ня ведае, з чаго складаецца добрае сена, якія ягоныя сучасткі лепшыя, якія горшыя, якія баяцца перастойваньня на пні, ці дажджу і якія гэткіх зьмен не баяцца? А ўсё гэта вельмі важнае і з ім трэба пазнаёміцца.

Усе складовыя часткі сена можна зболь-шага падзяліць на абыймовыя і страўныя. Першыя з іх (гэтак званая цэлюлёза) узрастаюць у меру таго, як сена даўжэй стаіць някошаным, не баіцца дожджу, але затое ня мае і кармовай вартасьці як спажыва. — З страўных сучастак найважнейшымі зьяўляюцца бялкі; найбольш іх у маладым сене (скошаным у цьвеце); дожджам бялкі выпаласківаюцца. Апрача бялкоў, важнай страўнай групай зьяўляюцца вуглягідтраты (тук, крах-

---

**B. Makiej**

## Jak zabiaśpiečyć budynak ad udaru piaruna?

Zapraŭdy žudasnym jość toj mament padčas bury, kali pry šumie vichru raz pa razie śviecić małanka, a mahutny ŭdar piarunoŭ abviaščaje spustašeńnie i niaščaście, jakoje niasie z saboj heta bura. Tym bolš stanovicca hety mament žudasnym, kali ŭ kožnaj chvilinie treba spadziavacca śmierci abo pažaru — inakš kažučy, kali choć najvažniejšyja budynki nie zabiaśpiečany naležna ad udaru piaruna hetak zvanymi **adhromnikami.**

Śćvierdžana, što dziesiataja čaść usich pažaraŭ pachodzić ad udaru piaruna. A skolki-ž jość vypadkaŭ śmierci ludziej i skaciny z pryčyny taho-ž piaruna? Vysnaŭ zhetul jasny: treba kaniešna zabiaśpiečyć adhromnikami budynki ad udaru piaruna. Asabliva važnym stanovicca heta z nadychodam leta, a z im — elektryčnych buraŭ.

**Što takoje piarun?** Elektryčnaja bura (hrom, małanka, piarun) heta vyraŭnańnie pry pomačy elektryčnaj iskry roznaha mnostva elektryčnaści, katoraja vytvaryłasia padčas paŭstavańnia chmaraŭ. Heta **vyraŭnańnie** moža być dvajakaje: **miž samymi chmarami**, abo **miž chmaraj i ziamloj**. Heta apošniaje i jość piarunom. Razahretaje pry hetym da strašenna vysokaj temperatury pavietra na darozie iskry śviecić biełym śviatłom małanki, huk-ža hromu pachodzić ad mahutnaha pry hetym dryžeńnia pavietra. Dziela taho, što huk lacić pryblizna tolki 343 metry na sekundu, a śviatło — 300.000 kilometraŭ na sekundu, my vidzim upierad śviatło małanki, a paźniej čujem hrom, i tym paźniej, čym dalej ad nas udaraje piarun.

**Kudy bje piarun.** Piarun bje naŭpierad u tyja vysokija pradmiety, jakija dobra pravodziać elektryčnaść, jak napryklad: vysokija budynki i drevy, što stajać asobna abo na ŭzhorku. Udarajučy ŭ dom, piarun časta traplaje ŭ strachu z tej starany, skul vieje viecier, abo ŭ komin, bo dym i saža taksama

мал) і ўрэшце мінэральныя солі (попел). Важна пры гэтым ведаць, што цэлюлёзы найбольш ёсьць у грубых сьцёблах, а страўныя сучасткі знаходзяцца ў маладых, тонкіх галінках і лістках.

Ведаючы гэта ня цяжка зразумець, што тое толькі сена будзе запраўды спажыўным і поўнавартасным, якое было скошана за моладу і якое пры сушэньні найменш пераварочвалася. Аб часе касьбы „Самапомач" пісала ўжо няраз і тут толькі прыпомнім, што ніколі ня можна чакаць з касьбой датаго часу, пакуль большасьць травы перацьвіце.

Цяжэйшая на погляд справа з тым, каб сена высушыць, не абцёршы яго лішнім пераварочваньнем. Асабліва гэта важна пры сушэньні канюшыны і канюшынна-травяністых мешанак, у каторых такіх кволых сучастак найбольш. І гэтыя кволыя сучасткі, найцаньнейшыя і найспажыўнейшыя з усіх, пры сталым пераварочваньні абціраюцца і гінуць зусім марна.

Як тады быць? Як высушыць сена і асабліва ўспомненыя канюшынныя мешанкі, не пераварочваючы іх?

Калі пагода стаіць сухая, тады гэта ня трудна; ды і то пры пераварочваньні абломліваюцца найлепшыя сучасткі. А што-ж гаварыць, калі зацягнецца непагода і сена прыходзіцца складаць, растрасаць, пераварочваць колькі і нават колькінаццаць разоў? Тады з яго астаюцца толькі бязвартасныя лыкаватыя сьцімбуры...

Вот-жа, каб сена пры сушэньні ня страціла нічога з свае спажыўнае вартасьці, трэба яго так сушыць, каб найменш, а як можна то й зусім не пераварочваць.

Заграніца, дзе пагода ня менш, а мясцамі навет і больш яшчэ капрысная як у нас, знае гэткія спосабы сушэньня сена і ўжывае іх здаўна. Выглядаюць яны гэтак: калі ёсьць да работы прынамся двух людзей, дык усьлед за касой ідзе другі чалавек, разграбае мясцамі пракосы і стаўляе драўляныя трыногі. Трыногі гэтыя прыгатаўляюцца з нядоўгіх (да 3-ох мэтраў кожная) жэрдак, не канешна гладкіх, а знача — сукаватых; каб трыногі былі больш пакоўныя, на іх кладуцца перакладзіны. Уверсе ўсе тры (можна і чатыры) жэрдкі зьвязваюцца перавяслам, або вяроўкай ці ўрэшце драцяным абручом. На прыгатаваны гэтак трыног складаецца сырая канюшына нягрубымі пластамі, каб вецер мог іх правяваць. Самае складаньне сырога сена на трыног тым выгаднейшае, чым больш сукоў на жэрдках трыногаў, або перакладзін. Перакладзіны з аднае жэрдкі на другую кладуцца двума паверхамі; а калі жэрдкі доўгія і трыног выходзіць высокі, тады перакладзіны робяцца ў тры і навет чатыры паверхі. Раз наложаная на трыног канюшына сушыцца нязДыманая аж да суха і звозіцца раніцай ці вечарам, калі найдрабнейшыя і найспажыўнейшыя лісткі бываюць крыху набраклыя і таму ня крышацца.

Усьлед да звожанай канюшынай (і наагул за перасушаным на трыногах сенам) трэба не чакаючы зьбіраць і самыя трыногі ды звазіць іх у пэўнае месца ў гаспадарскім будынку, каб там перачакалі да наступнага ўжываньня.

Карысьць з ужываньня трыногаў вачавідная для кожнага, хто іх раз ужо спрабаваў. Выдатак-жа на самыя трыногі бывае толькі аднаразовы, бо раз зроблены трыног, калі толькі яго уважна раскладаць і старанна пераховываць, трываць можа праз доўгія гады.

**А. К.**

---

należać da dobrych pravadnikoŭ elektryčnaści. Ad udaru piaruna syroje dreva, zaležna ad hatunku, razščeplivajecca, abdzirajecca z kary abo raźbivajecca na treski; suchoje dreva, sałomu, siena piarun zapalvaje; cieńkija draty topić, ludziej i skacinu zabivaje; zdanliva zabitych (ahłušanych, kantužanych) udajecca časami adratavać, stasujučy štučnaje dychańnie.

**Jak zabiaśpiečycca?** Praviłam zabiaśpiečavańnia ad piaruna jość vyznačeńnie jamu darohi da ziamli pry pomačy davoli hruboha metalovaha drotu.

Pieršym i starejšym sposabam zabiaśpiečavańnia jość staŭlańnie pobač z budynkam vysokaha słupa, na viersie katoraha znachodzicca vostry metalovy špic (kaniec hruboha nieržaviejučaha drotu, kab nie pierastaŭ być vostrym), ad katoraha idzie da ziamli žalezny cynkavany (kab nie ržavieŭ) kručany drot (kanat), hruby pryblizna na 1 cm. Kab atrymać dobraje złučeńnie, hetak zvanaje „ŭziamleńnie", pamiž hetym drotam i ziamloj, zakopyvajecca kala słupa, na hłybini 50 cm. da 1 metr., u vilhotnym płaście ziamli bolšy kavałak žaleznaj cynkavanaj blachi (hruboj na 2 milimetry, doŭhaj i šyrokaj na 70 cm.), danitavanaj i dapajanaj da kručanaha drotu na słupie. Pry zakopyvańni blachi, dziela lepšaha pieravodžańnia elektryčnaści, ziamlu pierasypajuć popiełam abo kuchonnaj solaj, palivajuć vadoj i dobra ŭtoptyvajuć. Nižniaja čaść słupa pierad ukopyvańniem apalvajecca abo abmazyvajecca haračaj smałoj, kab chutka nia hniła.

Apisany adhromnik vostrym svaim kancom na słupie ściahvaje roźnicy mnostva elektryčnaści povoli, a kali ŭdaryć piarun, to pierachodzić pa drocie ŭ ziamlu biaz škody dla budynku. Adnak apošnim časam śćvierdžana, što taki adhromnik nie zaŭsiody baronić ad piaruna. Byvali vypadki, kali pamima adhromnika, piarun udaraŭ z chvalaj daždžu u budynak.

Naviejšy sposab zabiaśpiečavańnia budynku ad udaru piaruna jość hetaki:

Nad ščytom strachi (uzdoŭž krejki) raściahvajecca metalovy pravadnik, jaki pa abiedźviuch staronach budynku zvodzicca da ziamli bierahami strachi i pa vuhłoch ścien. Pravad-

# Асот трэба нішчыць!

Ёсьць шмат гатункаў асоту: польны, пікаваты, лугавы, зьвіслы, кучаравы і інш. Усе гэтыя гатункі вельмі шкодныя і дзеля таго іх трэба нішчыць. Абмінаючы тымчасам усе іншыя гатункі, зьвернем тут увагу на гатунак асоту гэтак званага польнага (*Cirsium arvense — L.*), які на нашых палёх найчасьцей сустракаецца і які дзеля гэтага найбольш у нас прыносіць шкоды.

У істоце сваёй асот ёсьць шматгадовым пустазельлем; гэта знача, што раз загнезьдзіўшыся, ён расьце на тым месцы праз колькі гадоў. Небясьпека асоту тымбольшая, што ён размнажаецца падвойным спосабам: насеньнем і карэньнем, пры гэтым карэньне асоту йдзе ўглыбку да 2 мэтраў, разрастаючыся ў колькі паверхаў.

На колькі шкодны асот, відаць з абліченьняў, якія ў Нямеччыне рабіў Корсмо; з аднаго гэктара асот выбірае ў гэтым выпадку: 138.16 кілё азоту, 31.04 кілё фосфару і 116.98 кілё поташу. Пераводзячы гэтыя лічбы на гнаі штучныя, атрымаем страты на 1 гэктары наступныя: 920 кілё 15 працэнтавага гною азотнага, 155 кілё 20 працэнтнага супэрфосфату і 292 кілё 40 працэнтнай паташавай солі. Колькі ўсё гэта каштуе ў пераводзе на грошы—кожнаму ня цяжка зрахаваць.

Шкоды асоту кожнаму пасьля гэтага ясныя і таму яго трэба нішчыць. Спосабы нішчэньня асоту ёсьць два: выкопываньне карэньня або цэлых расьлін і скошываньне самых расьлін прад расьцьветам.

Нішчыць асот з карэньнем можна тады толькі, калі яго йшчэ ня вельмі многа. Каб гэткае нішчэньне з каранём мела сілу, трэба карэнь падразаць пад зямлёй на глыбцы ня менш 10 см. Плытчэй падрэзваны асот ня гіне, а наадварот — яшчэ больш разрастаецца. Да падрэзваньня асоту найлепш ужываць вузкія, вострыя рыдлёўкі, а само вырэзваньне найлепш рабіць пасьля дождку, калі зямля бывае размоклай і пазваляе лёгка выцягаваць падрэзаныя калівы асоту.

Калі асоту вырасьце на полі вялікае мноства і няма ўжо магчымасьці паасобных ягоных каліваў падрэзываць і выцягаваць, тады не астаецца нічога іншага, як недапускаць да таго, каб асот расьцьвіў: у асоце, што расьце ніжэй збожжа, трэба зрываць толькі вярхі асоту прад цьветам. Калі-ж асоту многа расьце на адкрытым полі, тады найлепш яго стала скашываць і гэтым самым недапускаць да расьцьвітаньня.

Усё гэта аднак толькі палавінныя сродкі проці асоту. Стала і на чыста можна пазбыцца на полі асоту толькі дакладным абрабляньнем глебы, найменш двугадовым гадаваньнем на адным месцы акопных расьлін, як бульба, бурак і пасьля засейваньнем на гэтым месцы такіх шыракалістовых расьлін, як грачыха, рэпак, белая гарчыца і інш.

Барацьба з асотам ня ёсьць лёгкай, а шкоды ягоныя вельмі вялікія. Дзеля гэтага трэба вельмі сьцерагчыся, каб не завесьці асоту на полі чыстым, што найчасьцей здараецца высейваньнем насеньня з дамешкай семя асоту. Таму сяўбовае насеньне трэба заўсяды вельмі старанна чысьціць ад усякіх дамешак, а так ці гэтак вырваныя калівы асоту ніколі ня можна даваць у гной, але канешна іх трэба да чыста спаліць. Небясьпечна таксама асот скармліваць і сьвіням, бо ў трыбусе зярняты асоту ня гінуць і выходзячы стуль разам з калам, разносяцца па ўсім полі.

С. Я.

---

nik hety pavinien być z pacynkavanaha žaleza i najmienš nastupnaj hrubini: 1) kanat z 7 dratoŭ, kožny drot hrubini 3,3 mm., 2) taśma hrubini 2 mm. šyryni 25 mm., 3) drot hrubini 7 mm. Pravadnik zrobleny z miedzi moh-by być cianiejšy.

Iskra piaruna moža ŭdaryć u kožnaje miesca pravadnika. Kab z hetaha nie nastupiŭ pažar, pavinien pravadnik być raściahnuty na žaleznych hakoch najmienš na 20 cm. vyšej nad ščytom strachi sałamianaj abo gontavaj. Haki zrobić kavał z kvadratnaha pruta ad 10—da 12 mm. (½ cala) hruboha. U zahib zrobleny na kancy haka zakładajecca pravadnik i zaciskajecca kleščami abo abkručvajecca cynkavanym drotam; hak ad haku ŭbivajecca prybližna što 1 metr.

Miesca, hdzie haki trymajuć pravadnik, pavinna być pacynavana abo pamalavana chvarbaj z pakostam, bo jnakš pravadnik u tym miescy chutka pieraržavieje. Ubivać haki ŭ ščyt gontavy možna biespasredna. Kali ž stracha z sałomy, to možna na kazły na ščycie pałažyć hrubuju žerdź z pazahanianymi hakami, da katorych užo prymacovyvajecca pravadnik. Kali adhromnik zakładajecca na domie, to bierah komina navokał dymnaj dziury treba ababić cynkavaj blachaj, da jakoj z dźviuch staron dapajvajecca cynaj ščytavy pravadnik.

Naahuł, pry spajvańni pravadnika nia možna skupicca z cynaj, a samo miesca spajańnia abkručvajecca jšče pacynkavanym drotam.

Pravadnik iz ščytu strachi viadziecca bierahami jaje (na hakoch!) i spuskajecca ŭdoł da ziamli pa dvuch prociŭležnych vuhłoch budynku. Nia možna pry hetym vostra zahinać pravadnika. Na vuhłoch budynku pravadnik možna biespasredna prybić da ścien prabojami. Kab uścierahčy pravadnik ad pierarvańnia, treba zasłanić jaho na 2 metry nad ziamloj i na 20 cm. u ziamli dvumia doškami, źbitymi pad kutom, prybitymi da ścien. Z ziamloj łučycca provad (z abiedźviuch staron budynku) „uziamleńniem“ takim, jak heta apisana pry adhromniku pieršym. Majučy jšče kolki metraŭ

## Асьцярожна з вотрубамі!

Што вотрубы могуць быць добрай пашай, аб гэтым ня можа быць спрэчкі. З другога боку аднак ведамы і такія выпадкі, калі вотрубы былі прычынай хваробы. Відаць з гэтага, што кармовая вартасьць вотрубаў залежа ад таго, як яны бываюць ужываны.

Практыка паказвае, што запраўды вотрубы, як абсыпка, даюць вельмі добрую пашу, але самі сабой яны аслабляюць увесь страўны апарат. А ведамы і такія выпадкі, калі коні, накормленыя мешанкай вотрубаў з кароткай сечкай, цяжка і навет сьмяротна захварэлі. Пасьмертная апэрацыя выказала пры гэтым, што вотрубы з сечкай сьпякліся і засохлі ў грубой кішцэ на цьвёрды камень, які ня можна было распусьціць і выгнаць ніякімі ведамымі прачышчальнымі сродкамі.

Асабліва часта шкодзяць вотрубы жывёле ў тых гаспадарках, дзе на вотрубы найлягчэй, напрыклад пры млынох. —

Да нядаўна думалі людзі, што вотрубы самі сабой ёсьць добрай пашай. Сягоньня-ж ведама, што самі вотрубы цяжка страўныя, хоць кармовая вартасьць іх даволі вялікая. Маюць у сабе вотрубы шмат сырога валакна, многа фосфару і поташу і вельмі мала вапны. Дзеля гэтага вотрубы зьяўляюцца пашай аднабокай і не зьмяшаўшы з іншай пашай, ня можна карміць імі маладняк свойскай жывёлы. Завялікая порцыя вотрубаў у жывёлы дарослай бывае прычынай страты апэтыту, слабай чыннасьці кішок, затрыманьня калу і мочы, кульганьня, слабасьці ў крыжы і г. д. Косьці гэткай жывёлы бываюць рэдкія, слабыя.

Усё гэта змушае карыстацца толькі вотрубамі здаровымі і ў незавялікай колькасьці.

## Даглядайма бульбу.

Бульба ёсьць падпорай для хлеба і дзеля таго трэба яе старанна даглядаць на полі: палоць з яе ўсякае пустазельле (траву) і ўспульхняць самую зямлю. Патрэба палоньня бульбы даказана ўжо была но гэтым месцы ў мінулыя гады і тут толькі заўважым, што мокрымі гадамі ў бульбе вельмі множыцца пырнік. Супроць пырніку найлепшая абарона гэта матыка. Тым ці іншым спосабам выдабыты з зямлі пырнік ня можна нігдзе складаць, ня можна ім засыпаць ямаў на дарогах, бо гэта ёсьць карыгоднае марнаваньне. Найлепш можна выкарыстаць пырнік тады, калі дастаўшы яго з зямлі старанна прамыем, прасушым і скормім свойскай жывёлай.

А цяпер колькі слоў аб успульхніваньні зямлі пад бульбай. Важна гэта асабліва ў бульбы пасаджанай на грунтох цяжэйшых, зьліўных, як гліна і глей; у гэтым выпадку пры сухой пагодзе пасьля дожджу вытвараецца непрадышная скарынка, праз каторую ня можа да бульбы дастацца паветра і бульба змушана задыхацца. Дзеля гэтага як толькі бульба пачынае абыходзіцьць, яе трэба збаранаваць лёгкімі баронамі. Каліж-бы аднак бульба йшчэ не абыходзіла, а на версе вытварылася непрадышная скарынка, дык баранаваньне тут можа быць памоцным таксама.

Калі калівы бульбы на гэтульні вырастуць, што пачнуць раскладацца, тады пара бульбу абарываць.

Спытае нехта: нашто наагул бульба абарываецца? Адказ на гэта вот які: калі бульбяное каліва ад самай пасаджанай бульбы ўверх на якіх 15—20 см. ня будзе абгорнена зямлёй, дык маладыя бульбіны будуць зялёныя і да таго будзе іх мала. Згэтуль навука,

pravadnika, možna zrabić dobraje ŭziamleńnie, pakidajučy kaniec pravadnika doŭhi na 2—3 metr. i da jaho dapajać u hetym miescy siaredzinaj kavałak pravadnika doŭhi, na 4—6 m. Hetak vytvaranyja 3 kancy, pa 2—3 metry kožny, zakapać u ziamlu, raściahvajučy ich jak najdalej adzin ad druhoha.

Budynki krytyja blachaj mohuć być zabiaśpiečany ad udaru piaruna lahčej i taniej. Bierah komina navokał dymnaj dziury treba ababić blachaj i dapajać jaje pravadnikom da blachi na strasie. Dalej, treba dapajać da blachi pravadniki na dvuch prociŭležnych vuhłoch i advieści ich da ŭziamleńnia. Kali dom maje rynny (truby, katorymi ściakaje vada) ščylna złučanyja z blachaj strachi, dyk chopić advieści ad dolnych častkaŭ rynnaŭ pravadniki da ŭziamleńnia.

**Sposaby aściarožnaści.** Radjovyja anteny i pravadniki da ŭziamleńnia pavinny być zrobleny z najhrubiejšaha antenavaha drotu, jaki pradajecca. Pieraklučaciel antenavy treba ŭmiaścić pry samym aknie, hdzie ŭchodziać z nadvorku draty i abaviazkava padčas bury pieraklučyć na ŭziamleńnie.

Suki vysokich drevaŭ, škiravanyja nad budynak, treba abrezać, a na viersie dreva dobra było-b załažyć pravadnik (adhromnik pieršy) i dałučyć jaho da ŭziamleńnia adhromnika.

Kančajučy ŭspomnim, što znachodziačysia padčas bury na poli, nia možna ŭzychodzić na ŭzhorki, stajać na roŭnym poli, chavacca pad asobna stajačyja drevy, stahi i h. d.; najbieśpiačniej u hetym vypadku: lehčy na ziamli ŭ dalincy, schavacca ŭ ziamlanku, u jar, u les, ale nie apiracca ab vysokija drevy (asabliva duby).—Jak bačym z vyšej napisanaha, sposab zabiaśpiečvańnia budynku ad udaru piaruna jość prosty i nia tak darahi — žyćcio chiba-ž kožnamu daražejšaje. Dyk budujma adhromniki, kab nie čakać sa stracham padčas letniaj zasuchi tak patrebnaha ažyŭčaha doždžu.

# Шкоднікі нашых садоў і змаганьне з імі.

*(Працяг в № 2-3)*

## Матылі (*Lepidoptera*)

Характэрныя асаблівасьці матылёў наступныя: поўная перамена хвормы: 1) яечка, 2) лярва, 3) пачварка і 4) сьпелая хворма (*imago*); ссучы губны апарат; 2 пары крылак, пакрытых кволай рознакалёрнай луской, якая лёгка сьціраецца пры датыканьні. Лярвы матылёў завуцца вусеніцамі. Выpraслыя матылі жывуць сокам кветак, а вусеніцы — лістамі або дрыўном. Шкодзяць звычайна ў стане вусеніцы.

Нішчацца шкодныя гатункі вусеніц падчас іх жыраваньня, звычайна абпырсківаньнем **парыжскай зеленяй*)**.

**Спосаб прыгатаваньня парыжскай зелені.** Хочучы атрымаць 100 літраў атрутнай жыжкі, бярэцца адпаведная колькасьць парыжскай зелені (колькасьць падаецца далей) і робіцца з вадой рэдкая папка (цеста).

Асобна прыгатаўляецца вапеннае малако з чыстай, добрай, нягашанай вапны. Да гэтага перш працэджанага малака ўліваецца дробнымі часьцямі папка з парыжскай зелені, цэлы час мяшаецца, і гэтак атрымліваецца жыжка, каторай трэба абпырсківаць дрэвы, нападзеныя шкоднікамі.

Колькасьць зелені і вапны, якую трэба браць на 100 літраў вады, залежыць ад жывучасьці шкодніка, кволасьці самай расьліны, а так-жа і ад пагоды.

Звычайна абпырскуючы кволыя расьліны, бярэцца на 100 літраў плыўкасьці толькі 60 грамаў зелені і 450 грамаў вапны:

для ігруш—80 гр. зелені і 500 гр. вапны
„ яблыні - 100 да 120 гр. зелені і 700 гр. вап.
„ вінаграду і паркавых дрэў—150 да 200 гр. зелені і 1,000 гр. (кілё) вапны і г. д.

Вапна аслабляе сілу арсэнавай кісьлі, якая парыць расьліну.

Каб спраўдзіць, ці жыжка добрая, ці яна не замоцная, трэба на пару мінут акунуць у ёй чысты, сталёвы нож. Калі нож ня зьменіць колеру, дык жыжку гэтую можна ўжываць; калі-ж нож шчарнее, тады да жыжкі трэба дадаць яшчэ вапны і зрабіць пробу другі раз.

УВАГА: парыжская зелень зьяўляецца моцнай атрутай нятолькі для вусеніц, але і для самага чалавека; дзеля таго прыгатаўляць гэтую плыўкасьць трэба вельмі асьцярожна.

Іншыя спосабы барацьбы з вусеніцамі будуць пададзеныя пры паасобных гатунках шкоднікаў.

**Ш ы п ш ы н і ц а** (*Aporiacrataegi— L.*) — складае яечкі на сподняй паверхні лістоў; вусеніцы жыруюць да восені, зімуючы пасьля ў скручаным лістку (у адным лісьце адна вусеніца!) у г. зв. „зімавых гнёздах.“ Збуджаныя вясною робяць далёка больш шкоды, зьядаючы маладыя лісты і пучкі.

**З л а т а г у з к а** (*Euproctis chrysorrhoea— L*) — жыцьцё падобнае да папярэдняга гатунку, вусеніцы зімуюць у скручаных лістох злучаных з сабою павучынай.

*Спосабы барацьбы* з гэтымі двума гатункамі наступныя: 1) абпырсківаньне дрэў у часе жыраваньня вусеніц, гэта знача вясною і ў другой палавіне лета — парыжскай зеленяй; 2) зьбіраньне ўвосені або зімой „зімавых гнёздаў“ і нішчэньне іх.

**А б р у ч н і ц а** (*Malacosoma neustria— L.*) складае яечкі на маладых галінках, робячы з яечак як-бы пярсьцёнкі. Вясною з гэтых яечак выклёўваюцца вусенічкі, каторыя жыруюць спачатку грамадамі пасьля паасобна, аб'ядаючы лісты дрэў. *Змаганьне* з гэтым гатункам:

1) нішчэньне познаю восеняй або зімой яечак, абразаючы галінкі дрэў, на каторых паскладаныя яечкі.

2) нішчэньне вясною гнёзд з вусеніцамі (калі яны жыруюць грамадою)

3) страсаньне вусеніц на падасланыя пад дрэва посьцелкі

4) абпырсківаньне нападзеных дрэў парыжскай зеленяй.

**Шкоднік пядзямер** (*Cheimatobia brumata L.*)—увосені самкі з недаразьвінутымі крыламі (няздольныя да лятаньня) выходзяць з пачварак схаваных у зямлі, узлазяць на пладавыя дрэвы і складаюць яечкі на лусцэ пучкоў. З яечак вясною выклёўваюцца вусеніцы, якія нішчаць лісты і кветкавыя пучкі.

*Спосабы барацьбы* з гэтым гатункам такія:

1) закладаць у пачатку кастрычніка **л і п к і я  п а я с к і** на пні дрэў. Паяскі гэтыя з васковай паперы прывязваюцца моцна да пня так, каб самка матыля не пралезла пад пояском. Леп размазываць у верхняй часьці пояскоў. З гатовых ліпкіх жыжак у прадажы найлепшы ёсьць „Lep sadowniczy“ фірмы „Azot;“

2) пачваркі можна нішчыць пракапываючы пад дрэвамі ўвосені зямлю;

3) жыруючыя вусеніцы можна атруціць абпырсківаючы дрэва парыжскай зеленяй.

(д. б.) **Мікалай Караленка.**

*) Парыжская зелень гэта парашок зялёнага колеру, складзены з аршэніку і медзі, дзеля чаго ёсьць ён сільнай атрутай.

---

што чым плытчэй пасаджана бульба, тым вышэй трэба яе агортываць — і наадварот. Глыбокае саджэньне — глыбей як 12 см. — бульбе шкодзіць. Шкодзіць бульбе таксама і лішняе абарываньне і дзеля таго другі і наагул лішні раз аборываць бульбу можна толькі тады, калі нааранае папярэднім аборываньнем грабяні бароэнаў змыюцца дажджом ці з якой іншай прычыны. Калі грабяні бароэнаў стаяць высака, тады паўтаранае аборываньне шкодзіць: трэба толькі бульбу стала палоць. **А. К.**

## Як выгнаць з памешканьня мурашкі?

*(Адказ М. Сав.—му).*

Бывае часта, што раньняй вясной паяўляюцца ў людзкім памешканьні мурашкі, дакучаючы асабліва ў сьпіжарнях (кладоўках) і наагул у хаце. Аб способах выганяньня гэтак загнежджаных няпрошаных гасьцей знаходзім у фаховай літаратуры наступную раду:

Найбольш скуткоўны спосаб выганяньня мурашак гэта сыроп Барб'е (Barbier). Склад гэтага сыропу наступны: 6 літраў вады, 7 грам віннага крысталічнага квасу, 9 грам соднага бэнзоэсану, 5 грам цукру (можа быць неачышчаны, жоўты), 900 грам мёду і 21 грам соднага арсэняну (сільная атрута). Сыроп прыгатаўляецца гэтак: 5 з паловай літраў вады падагрэваецца ў чыстым катле; калі вада ўжо летняя, тады распускаецца ў ёй вінны квас, а пасьля содны бэнзоэсан. Пасьля ўсё гэта далей вольна падагрэваецца і памалу дасыпаецца, стала мяшаючы, ўся порцыя цукру. Падагрэваньне пераходзіць у кіпеньне, якое трывае поўгадзіны. Пасьля кацёл здымаецца з агню, даліваецца ў яго столькі вады, колькі было яе прад варкай і пакуль яшчэ цёплы ўвесь раствор, у яго ўліваецца ўся порцыя мёду. Атрыманую жыжку уліваем у вядзерца, якое ўжо ня будзе ўжывацца да паеньня і ўліваем у яго асобна распушчаны ў паўлітры вады содны арсэнян.

Атрымаем гэтак сыроп, якім трэба памазаць дольныя часьці будынку, а таксама вонкавыя рамы вокнаў і дзьвярэй. Мурашкі пасьля гэтага ў сярэдзіну будынку не дастануцца.

Акрамя таго ў будынках памешкальных, сьпіжарнях і г. д. да лаўленьня і губленьня мурашак ужываюцца пасткі напоўненыя растворам соднага саліцыляну. Гэтыя пасткі прыгатаўляюцца гэтак: на паўлітра вады, а йшчэ лепш—засалоджанага поснага малака (з пад цэнтрафугі) бяруцца 4 лыжачкі соднага саліцыляну; раствор гэты ўліваецца ў шклянку роўна з берагамі, шклянку прыкрываюць сушкай (бібулай), а на яе кладуць талерку і пасьля шклянку пераварачваюць уверх дном. Цеча (раствор) ня можа выліцца з шклянкі, бо на гэта не пазваляе цісьненьне паветра, але затое сушка стала трымаецца мокрай.

Замест соднага саліцыляну можна ўжыць гандлёвай 40 проц. формаліны ў тэй самай штэ і саліцылян колькасьці.

Гэтак прыгатаваныя пасткі расстаўляюцца ў сьпіжарнях, кухнях і наагул усюды там, дзе зьбіраюцца мурашкі.

Самыя мурашнікі можна зьнішчыць пасыпаючы іх мешанінай у роўных частках цукру і стоўчанага на парашок бораксу.

**В. Б.**

## Дробязі з птушніцкай гаспадаркі.

### *Чаму курыца ліе?*

Калі курыца замест каб несьці звычайныя яйкі, ліе іх без скарупы, то гэта знак, што або нешта не ў парадку з курынай пашай, або курыца дастала запаленьне сьлізістай павалокі яечніка. Лячэньне гэткага запаленьня яечніка належа да лекара. Затое упарадкаваць пашу можа і павінна сама гаспадыня.

Галоўным матар'ялам, з якога курыцца будуе скарупу для свайго яйка, ёсьць вапна. Калі-ж гэтай вапны ў курынай пашы за мала, тады яна ня мае з чаго будаваць скарупу для свайго яйка і яно выплывае (выліваецца) без скарупы. Таксама без скарупы выліваецца яйко, калі пашай для курыцы было сапсутае (тухлае, заплесьніўшае) зерне; асабліва шкодным для нясучай курыцы бывае зярно з галаўнёй (спарышом), катора падганяе курыцу да скорага нясеньня, так што яйко не пасьпявае абліцца цьвёрдай скарупой. Наагул да ліцьця яёк больш падатныя куры расавыя, асабліва азіяцкія (Кохінхіны, Брамы).

Хочучы памагчы ў гэтай хваробе, трэба адразу перастаць даваць курам вышменаваную шкодную пашу, а да добрай трэба дадаваць (пасыпаць) паленую, тоўчаную яечную скарупу або касьцяную муку. Добра таксама памагае карменьне курэй гарохам, бобам, шальбабонам (хвасоляй) дзеля таго, што яны маюць у сабе шмат мінэральных складнікаў.

### *Паяданьне пер'я*

Паяданьне пер'я гэта другі насьледак нястачы мінэральных сучастак у пашы. Паядаюць таксама пер'е тыя куры, якіх абступілі курыныя блохі, вошы і іншыя шкоднікі.

Каб адвучыць курэй ад гэтай дурной прывычкі, трэба ў пашы дадаваць ім касьцяную муку, спаленыя косьці, або рэшткі селядцоў. Самых курэй узноў-жа трэба аддзяліць на кароткі час у цёмны куток, а пер'е намасьціць ім крышку дзёгцем або аліваю з дадаткам нафты. Ад гэткай курацыі згінуць шкоднікі, а куры адвучацца паядаць сваё собскае пер'е.

### *Вапненьне ног.*

Прычынай гэтай хваробы ў курэй ёсьць шкоднік з роду павукоў. Спачатку хвароба мала значная. З часам аднак на нагах аж да „калена“ зьяўляюцца бела-празрыстыя вапняныя бліскучыя струпы, грубіня якіх дасягае 1 см. Гэтыя струпы і зьяўляюцца прычынай дакучлівай сьвярбячкі ў курэй, асабліва ўвечары. Усьлед за гэтым, калі курыцу не лячыць, ногі ейныя выкрыўляюцца і апохнуць, а сама курыца памалу, але стала гібее.

Ф. Акінчыц. *У парадку дыскусіі*

# Аграрна - коопэратыўная палітыка будучыні.

## 1. Коопэрацыя і дзяржава.

Разглядаючы сучасны коопэратыўны рух, ня можна не заўважыць, што ў існуючых коопэратыўных хвормах не заўсёды можна знайсьці запраўдны коопэратыўны зьмест.

Калі мы цікавімся коопэрацыяй і залічаем яе да найгалаўнейшых спосабаў перабудовы сельскай гаспадаркі на больш рацыянальных падставах, то гэтым самым у коопэратыўныя хвормы мы хацелі-б уліць і такі зьмест, каторы адпавядаў-бы нашым рэконструкцыйным мэтам.

Побач з гэткім паглядам закараніўся аднак і іншы падыход да коопэрацыі. Шмат хто хоча бачыць у коопэрацыі толькі сродак да падняцьця матэрыяльнага роўню скоопэраванай часткі насельніцтва — і толькі.

Пры існуючым стане рэчаў трудна казаць навет пра нейкі адзіны коопэратыўны ідэал. Сяньня кожная кляса грамадзянства вытварыла свае ўласныя, клясавыя коопэратыўныя арганізацыі, якія, маючы чыста эгоістычныя мэты, вядуць паміж сабою барацьбу. Гэтак, напрыклад, гарадзкі пролетарыят пабудаваў свой уласны тып коопэрацыі, галоўным чынам таварыствы с п а ж ы в е ц к і я. Дробна-буржуазная кляса таксама ахвотна гуртуецца каля гэтых аб'еднаньняў, але ўжо далёка адыходзіць ад рочдэльскіх прынцыпаў і „орыентуецца“ на акцыйныя таварыствы, дзелячы, напрыклад, надвыжку не паводле накупу, а паводле паёў і г. д. Асабліва ярка кідаецца ў вочы адсутнасьць рэканструкцыйных мэтаў у сучаснай сельска-гаспадарчай коопэрацыі, каторая, між іншым, павінна быць і бязумоўна будзе тым апорным пунктам, тым вагаром (рычагом), які пры іншых грамадзкіх і палітычных абставінах грунтоўна перабудуе ўсю сялянскую гаспадарку. Заданьні ж коопэрацыі пры сучасным ладзе вельмі вузкія і зводзяцца толькі да павышэньня дабрабыту скоопэраванай часткі насельніцтва і павялічэньня ягонай удзельнай вагі на рынку як прадаўца, што ўрэшце не заўсяды ўдаецца.

Коопэраваньне сельскай гаспадаркі ў тым кірунку і тымі спосабамі, якімі яно вядзецца цяпер, ня можна лічыць за такі дзейнік, каторы здольны быў-бы ўстанавіць іншы гаспадарчы лад на вёсцы. З гэтым, між іншым, змушаны быў згадзіцца нават такі прыхільнік коопэратыўнага будаўніцтва, як праф. Туган-Бараноўскі, каторы кажа, што: „ня маем ніякіх дадзеных на тое, што сельская коопэрацыя паступова можа ахапіць і галіну земляробскай вытворчасьці, ня маем падстаў спадзявацца, каб у далейшым сваім разьвіцьці сялянскія коопэратывы заняліся і вытвараньнем земляробскіх прадуктаў“...

Тое, аб чым кажа Туган-Бараноўскі, ёсьць для нас бяссумлеўным фактам. Але задача ў тым, каб заахвоціць сялян пакінуць сваё прымітыўнае гаспадараваньне, абапёртае на крайнім індывідуалізьме, бо яно завядзе іх да пагібілі.

Большасьць сучасных дзяржаў, ня маючы ніякіх рэканструкцыйных плянаў, пакінула коопэрацыю на волю лёсу. Іншыя ўзноў, ідучы на спатканьне прыватнаму капіталу, стараюцца ўстрымаць коопэратыўны рух шляхам законадаўчых мерапрыемстваў... А між тым, ініцыятыўная роль з боку дзяржавы ў хворме аграрна-коопэратыўнай палітыкі павінна мець рашучы ўплыў на гаспадарчы поступ.

Зразумела, што капіталістычныя дзяржавы, з іхнім бюракратычным апаратам, не надаюцца да падобнай арганізатарскай ролі, і з гэтай прычыны і ад сучаснай коопэрацыі мы не чакаем таго, што яна можа і павінна даць у „дзяржаве будучыні“, дзе творчая ініцыятыва пяройдзе ў рукі арганізаванага народу. Усякія-ж стараньні коопэратараў з соцыялістычным „нахілам“ вытварыць коопэратыўную рэспубліку пры капіталістычным ладзе — астануцца бясплоднымі, бо ўвесь буржуазны дзяржаўны мэханізм ня толькі ім ня спрые, але ставіць ім розныя перашкоды.

Трэба памятаць, што йшчэ асновапаложнікі коопэратыўнага руху мелі на ўвазе ня толькі пазакладаць коопэратыўныя склады і крамкі, але імкнуліся да шырокай пе-

---

Лячэньне ад вапнянкі выглядае гэтак: струпастыя ногі намочываюцца разьведзеным мылам; а як струпы размокнуць, тады іх асьцярожна здымаюць трэсачкай ці якім іншым шпяньком. Пасьля раз на дзень уціраецца ў хворыя але ачышчаныя ад струпоў ногі масьць прыгатаваная з: 10 частак нясоленага масла, 2 частак плыўкага дзёгцю і гэтулькі-ж серкі. Што тры дні гэтак памазаныя ногі змываюцца цёпларазьведзеным мылам і ўзноў націраюцца вышменаванай масьцю. І так аж да поўнага вылечаньня. Калі ёсьць пад рукой вазэліна, то пры канцы трэба ёй вымазаць прад тым вылечаныя ногі. Сам куратнік трэба пасьля гэтага таксама добра вычысьціць і выбеліць.

Я. Б.

Redaktar-Vydaviec inž. A. KLIMOVIČ
Z upavažnieńnia Biełaruskaha Instytutu Haspadarki i Kultury ŭ Vilni.
Biełaruskaja Drukarnia im. Fr. Skaryny, Vilnia, Zavalnaja 1—3.

рабудовы ўсяго социяльна-эканамічнага ладу на коопэратыўна-социяльных падставах.

Аднак і першыя коопэратары-ўтапісты памыліліся думаючы, што ім удасца зьдзейсьніць свой ідэал у межах буржуазна-капіталістычнага ладу, бо яны не разумелі тады, што да гэтага патрэбны спрыяючыя палітычныя і грамадзкія абставіны, якіх ня можа даць капіталістычны спосаб гаспадараваньня. Толькі пасьля ліквідацыі гэтага ладу будзе поўная магчымасьць разбудоўваць коопэрацыю паводле аднаго распрацаванага пляну і пазбыцца тых ад'емных зьявішчаў, якія мы наглядаем у гэтай галіне, дзе, як кажа той-жа Туган-Барaноўскі, існуе „самы востры антаганізм паміж пролетарскаю коопэрацыяю і сялянскаю“ і дзе „мы пастаянна спатыкаемся з тым зьявішчам, калі гарадзкія коопэратывы спажыўцоў бачаць у сельскіх коопэратывах сваіх небясьпечных ворагаў (Т.-Бараноўскі „Społeczne zasady kooperacji“ бач. 431).

Ініцыятыўная роль працоўнай дзяржавы ў коопэратыўным будаўніцтве азначаецца тымі рэканструкцыйнымі заданьнямі, каторыя яна ставіць сабе ў агульнай эканамічнай палітыцы. Тут дзяржава павінна быць ня толькі вярхоўным кантралёрам усёй коопэратыўнай працы, але зьяўляецца і ініцыятарам у справе дасканаленьня коопэратыўных хвормаў.

Гэтакае будаўніцтва, злучанае з рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі — вымагае ад грамадзянства матэрыяльных выдаткаў, галоўным чынам на розныя будоўлі і машыны, выдаткаў, каторыя не пад сілу сялянству. І таму матэрыяльныя патрэбы такой коопэрацыі мусілі-б быць пакрыты з агульна-дзяржаўнага бюджэту.

Зразумела, што дапамога з боку дзяржавы павінна стасавацца з такім абрахункам, каб па ўплыве пэўнага часу грамадзянства ў суцэльнасьці атрымала матэрыяльныя карысьці.

Да пытаньня пра хвормы і велічыню гэтай помачы з боку дзяржавы мы йшчэ вернемся. Цяпер толькі падчыркнём, што без яе (помачы) немагчыма коопэратыўнае будаўніцтва ў агульна-дзяржаўным маштабе. Мы трымаемся таго пагляду, што дзяржава павінна быць вярхоўным арганізатарам ва ўсіх галінах социяльна-эканамічнага і грамадзкага жыцьця. Дзеля таго мы лічым, што ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі на коопэтарыўных падставах, як неабходная ўмова, зьяўляецца адпаведны палітычны і грамадзкі лад, які павінен прыйсьці на зьмену існуючаму буржуазна-капіталістычнаму і які выключаў-бы ўсялякія магчымасьці да эксплёатацыі сялянства.

А каб гэткая паважная рэформа была праведзена ў згодзе з асаблівасьцямі краю і нацыянальным характарам ягонага насельніцтва, каб яна ня ўстрымлівалася нейкімі чужымі і варожымі сіламі, — наўперад патрэбна палітычная незалежнасьць народу, які яе ня мае і які хоча ўстанавіць у сябе новыя хвормы гаспадараваньня.

---

Картэль цэмэнту ажывае? Быў час калі за 100 кілё цэмэнту ў гурце плацілася 7 зл Быў тады жывы картэль (гандлёвая ўмова) цэмэнтавых фабрык. У 1933 г. гэты картэль разваліўся і цэны на цэмэнт упалі да 2—3 злотаў. — Апошнім часам кажуць, што картэль узноў ускрасае. Пэўна-ж, што цэны цэмэнту ўзноў тады пойдуць уверх. Кажуць, што Урад ужо пазволіў арганізавацца новаму картэлю. Калі так, дык чые тады інтарэсы для Ураду важнейшыя: шырокіх кругоў насельніцтва, якое патрабуе цэмэнту, ці сямёх капіталістычных фабрык цэмэнту?

Парцэлююць на палову меншчым вымагае закон. З прыходам да ўлады ў польскім Міністэрстве Земляробства людзей, якіх агульна ўважаюць як „радыкальных дэмократаў.“ не адзін спадзяваўея, што прынамсі парцэляцыя вялікіх двароў можа пойдзе шпарчэй. Тымчасам, што аказалася? а вось — плян парцэляцыйны на 1936 год прадбачыць распарцэляваць усяго 20 тыс. гэкт. казённых і 80 тыс. гэкт. прыватных грунтоў. Гэта азначае палавіну тэй нормы, якую устанаўляе польскі закон аб парцэляцыі з 1925 г. Гэткая норма палавінная, трымаецца ў Польшчы ўжо ад 1933 г Двары стаяць далей цэлымі, а малазямельным і беззямельным далей радзяць толькі больш „заціскаць пояс“—„добрая“ рада.

---

*УВАГА!* *УВАГА!*

*Пры рэд. «Самапомачы» ўведзены аддзел праўных парадаў, якім кіруе безінтэрасоўна беларуская адвакацкая сіла. Асобы, якія маюць якіясь пытаньні, павінны іх ясна і выразна напісаць на пісьме і прыслаць у нашу рэдакцыю. Адказы — невялікія будуць друкавацца ў «Самапомачы». На адказы большыя трэба далучыць паштовую марку за 25 грашоў.*

*Рэдакцыя „САМАПОМАЧЫ“*

